***

Дарогам сьвету сьняцца сны.
Пад мяккай даланёю ветра,
у пошуме магутных хвой
шляхі ахутвае спакой.

Нязьлічаныя кіламетры
праз бальшакі, сьцяжыны, нетры,
глынуўшы стомы, як паветра,
знаходзяць адпачынак свой.

Ім сьніцца тая далячынь,
зь якой ў адмену ўсіх законаў,
без тлумачэньняў і прычын
нас цягне да сваіх загонаў

у шлях астатні – на спачын...

З-пад капытоў, з-пад ног і колаў
бягуць шляхі празь лёс і кон.
Вякоў спакон,
часоў здавён,
пад сонцам і мігценьнем зораў.

Ў дзяцінстве,
стаўшы на парог,
як чорт панёс,
як Бог бярог?
На цьвердзі і на хвалях мораў
ўсе нашы крокі –
сны дарог.

## Сьнежнае

Так засыпае гарады
гады ў рады,
гады ў рады…
У белай нерушы тады
ані язды, ані хады…
Сьпяць і дарогі, і парты,
і міліцэйскія пасты.
У сьвеце – сьнег,
у сьнезе – ты.
Бывае так гады ў рады…
Сьнег літасьці і мілаты
нас захінае ад бяды
і зацярушвае сьляды
з старога году ў малады…
Каб не нагналі па сьлядах
ні боль, ні страх.
Каб меў надзею чалавек,
як сыдзе сьнег.

## Байка, пачутая ля дому “пад шпілем”

З дому таго,
што стаіць на праспекце,
выйшла старая
выкінуць сьмецьце –
Хлоп! –
пасьлізнулася.
Бразь! –
адляцела вядро!

Хістка ўстае,
набліжаюцца дзеці:
– Бабця, ў якім вы пад’езьдзе жывеце?
Сьмех – не пытаньне,
а ўсё ў галаве паплыло...

Помніцца бабці гімн СэСэСэру,
Сталін-татулька, які даў кватэру,
Помніца тое,
як добра і слаўна было!

Сьмецьце насіла тады пакаёўка –
ёй, генеральшы, неяк нялоўка.
У тыя часіны
нават алоўка
яна не вастрыла сама.

Сьцежкі ля дому чысьцілі спраўна,
шыхтам хадзілі флора і фаўна.
Лёгка жылося,
файна, забаўна
й так ад відна да відна...

Думкі кружлялі,
ногі дрыжалі,
трэслася дробна рука.
– Гады! Такую краіну прасралі!
Мала садзілі,
дрэнна пужалі!
Іначэ зараз бы
ўсе уважалі
старага
бальшавіка!

## У свой час

Пакуль ня бачу я ні старасьці,
ні сьмерці,
ды адчуваю позіркі ў мой бок.
Мой Бог,
ад іх увагі немагчыма не памерці –
такім паненкам хто калі адмовіць змог?
Яны глядзяць здалёк.
Пад іх паглядам
глыбеюць зморшчыны, сівеюць валасы.
І зайчык сонечны блішчыць з-за далягляду
Зь бязьлітасна завостранай касы.
Ляціць насустрач ў пошуку спагады,
руку цалуе, як шчаня, крадком.
Ён напалоханы і адарвацца рады
ад тых дваіх з вусьцішным халадком...
Я забываюся на ўсё ад ласкі промняў.
Пакуль ляжым ня мы, нясуць ня нас.
Чарга надыдзе, і я ўсё успомню.
Ў свой час.

***

А проста сьнег ідзе вакол
і проста ранак –
найлепшы час, што існуе для пагулянак.
А проста неруш,
і вакол такая ціша,
што чутна, як
халодны сьнег сабака ліжа.
Няма машын, няма людзей
сьвет белых фарбаў –
самотны дворнік
згрэсьці ў кут спрабуе марна...
І парк застылы паглядае з-пад павек,
як у ім блукаюць
зьвер,
          зіма
                і чалавек.

***

Ў апошняй зямной сваёй хаце
жыць на высокім паверсе?
– Ды ну!
Памрэш вось
і жонка скажа суседу:
– Вова,
памажы ты зьнесьцi труну.

Ён скасавурыцца кiсла,
плячыма пацяпне –
Я-та – сусед, гуманiст, вядома,
ды толькi –
                    не!

Я за сваё жыцьцё нацягаўся
раяляў
ды газавых плiт,
а зараз ў мяне кiла, падагра,
i радыкулiт.

Раней усе хаты нармальна рабiлi
(зiрнiце ў даўнейшым кiно),
лёгка праз дзьверы, што трэба насiлi
цi ў скрайнiм ужо –
                                праз вакно...

А сёньня ў гару кожны хоча залезьці,
як горны баран
памрэ там,
і каб яго стылага зьнесьці
цяпер патрабуецца кран!..

А ты паглядзіш на іх, ссунуўшы вечка, –
– Ну вас! Дапяклі!
І пойдзеш памалу,
падзьмуўшы на сьвечку,
бліжэй да зямлі...

***

Рыба пачынае з галавы.
Рыбу пачынае з галавы КОТ.
Раб пачынаецца з галавы.
Раба пачынае з галавы КАТ.

## Зімовы сон

*Верці*

Мне сьнілася, што ты сказала: “сьнег”.
Ён так пайшоў,
што не падняць павекі
і зьніклі ў ім дамы і чалавекі...
Як хораша, што ты сказала сьнег.

Мне сьнілася, што ты сказала: “дзень”.
Бясконцы дзень
бяз справаў і гадзінаў,
у ім усё, што некалі пакінуў
на белы сьнег кідала белы цень.

Мне сьнілася, што ты сказала “час”,
і той прыйшоў.
Я маю на увазе,
што мы сустрэліся ў сваім нягоршым часе.
Як ты да месца узгадала час.

А потым ты сказала: “пачакай”,
і мы застылі
ў часе, дні і сьнезе
кузуркамі ў бурштынавым разрэзе
на неадольным шляху ў небакрай.

## На сыходзе чарговага году

Дзясятак новых вершаў,
пяток старых сяброў –
ня горшы і ня лепшы
і гэты год прайшоў.

Заходы і сьвітанкі
пакінуў на ўспамін,
ды стос старых газетаў,
каб распаліць камін...

Ды хутка прыйдзе новы,
наступны
і чарговы,
нядзельна-чацьвярговы
і поўны мітусьні.

Ён пройдзе незаўважна
а зрэшты і няважна,
але, як вельмі страшна –
кладзіся і засьні.

Жывем на гэтым сьвеце,
і што тут з нас узяць?
Мы цешымся, як дзеці,
пакуль гады ляцяць...

***

Ёсьць навукаў у сьвеце нямала,
ведам іх і канца не відно!
Куды б жытка цябе не загнала,
цьвёрда памятай, браце, адно –
варта ў назвах іх не памыліцца
і паўсюль сыдзеш ты за свайго:
акуліст – вывучае акулаў,
а кінолаг, лагічна, – кіно!

## Украіна 2014

Сумная менская ноч.
Мы заліплі каля манітораў —
Кіеў. Баі на Грушэўскага. Месяц каторы
цягнецца гэта тру сторы.
Хто зь імі,
хто з намі?
Хто баіцца канторы,
хто шукае адказаў у Гугле,
хто ў Торы.
Мы чакаем на лепшае,
першае,
пераймаемся вершамі,
вешаем цэтлікі,
мятлікі,
палім у фортку.
Палохаем жонку,
чухаем котку.
У навушніках на патыліцы —
шум нараджэньня краіны.
Героі,
іх мроі,
і пульс Украіны!

## Перадсьвяточнае

Мне хочацца на сьнежаньскі Майдан!
І ў думках я, напэўна, буду там.
Калі ў застольлях піць пачнуць
«за мілых дам»,
свой келіх падыму і тым аддам,
хто даў адпор амапаўскім шыхтам,
малым мястэчкам,
вёскам, гарадам,
маім суседзям
і маім братам —
ўсім тым, на кім трымаецца Майдан!

## Разумець Расею

Суседку з усходу імкнуся асіліць –
гляджу на абрысы вялікай Расіі.
Хілюся над картай,
ваджу па ёй мышкай –
Расея як зона
і Крэмль над ёй вышкай!
І Крэмль над ёй вышкай,
а там куляметы,
а ў нізе штрафбаты,
расстрэльныя роты.
Расстрэльныя роты
ні-кроку-назады
ты чуў, як грукочуць
у іх аты-баты?
А іх левітанаў,
што з кожнага праса
вітаюць парады
гарматнага мяса?
Гарматнага мяса
бясконцай Расіі
расстрыгаў і катаў
ў чаканьні месіі...
Ня выявіць пэндзлем,
ня выславіць кніжкай –
Расея ёсьць зонай
і Крэмль над ёй вышкай!

## НГ-рэквіем

Даедзены апошні калядны бутэрброд,
і Дзед Мароз з-пад кропельніцы вылез.
Крыху паадэкватнеў падвыпілы народ
і пасталеў яшчэ на год –
на выраст.
А новы год пачаўся,
як скончыўся стары, –
валютны курс і жарсьці па хакеі.
У роспачным раскаяньні зацішнае пары
ялінка на вачах ніякавее.
Вурчыць лядоўня,
сохне мандарын,
мігціць гірлянда і наводзіць смутак.
І пляма ад шампанскага –
адзіны напамін
пра сем мінулых навагодніх сутак...

## Гарадскі эцюд

*Менскаму раёну «Шарыкі»*
*прысьвячаецца*

Ля дома смутку «Цыryманіял»
стаяў цынічна магазін «Прадукты»,
у ім гнілі гародніна і хрукты,
п’яны раён па звычцы ціха спаў.
Пад лініяй электраперадач
задумлівыя серылі сабакі,
капаліся у сьмецьці небаракі,
паволі павялічваючы срач.
Ў нікому непатрэбнае ВэЧэ
пацііху вар’яцелі салабоны,
паблытаўшы статут і забабоны
і шмат чаго паблытаўшы яшчэ.
Зіхцеў праспект у гонар партызанаў,
да ходніка тулілася таксі,
што не скранецца, колькі ні прасі,
бо сьпіць таксіст цяпер ужо дарана.
Крый мілы Божа!
Міма пранясі
хрушчобаў пралетараў-ветэранаў,
ад вуліцаў аматараў таранаў,
заводаў трактарных,
іх дымавых туманаў,
падпольшчыкаў,
чырвоных атаманаў,
далей і прэч
хутчэй
мяне нясі!

***

*маім сябрам*

Я вулкамі прайдуся па лісьці́,
па сьнезе
і па высахлым асфальце,
па ўспамінах,
згадках
і па памяці.
Па ўсім, па чым ня можна не прайсьці,
па ўсім, па чым ня можна мне прайсьці...

Я ў вашы вокны буду заглядаць,
шукаючы агеньчыка
ці зьнічку.
Калісьці мелі мы такую звычку —
да раніцы дзвярэй не зачыняць.
У дом гасьцінны іх не зачыняць.

Пайду цягацца,
пацягнуся йсьці
па вуліцах вясёлай маладосьці.
Сустрэну невымоўнае там штосьці,
пазнаю,
запрашу сабе на госьці.
Усё, што пагублялася ў жыцьці,
усіх, каго згубіў я па жыцьці.

Мы сядзем ўсе за столікі кафэ.
Замовім тое,
што пілі звычайна,
і зноўку пасябруем так адчайна,
што хоць у бой,
хоць на аўтадафэ.
Што хоць у бой,
хоць на аўтадафэ...

Я вулкамі прайдуся па лісьці,
па сьнезе
і па высахлым асфальце,
па ўспамінах,
згадках
і па памяці.
Па ўсім, па чым ня можна не прайсьці.
Па ўсім, па чым ня можна мне прайсьці...

## Фэйсбукавае

Што за навіны ма́ю са стужкі? –
Пара падлеткаў просіць папружкі,
Дзьве-тры разбэшчаныя дзявулі
на інстаграмах губы надзьмулі.
Чэзлы палітык (амаль паралітык)
сочыць, што піша па ім аналітык.
Зноўку губляюцца коткі й сабакі,
шчыльна хварэюць на рак небаракі.
Хутка Каляды, чэргі на межах,
нашы сьцягі на майданаўскіх вежах...
Тыдзень-другі – і ў год новы Каня
дзёрне галопам стужка мая!

## Чыгуначны рок-н-рол

Каму са мной па дарозе? —
Сядайце ў мой цягнік,
Сядайце ў мой цягнік,
Сядайце ў мой цягнік!
Упэўнены ў перамозе,
Ён рвецца ў белы цалік,
Ён рвецца ў белы цалік,
Ён рвецца ў белы цалік!
Даволі чакаць на марозе —
Зваротны пайшоў адлік,
Зваротны пайшоў адлік,
Зваротны пайшоў адлік!
Ня трэба стаяць на парозе —
Тым, хто да волі звык,
Тым, хто да волі звык,
Тым, хто да волі звык!

Зь перону сплывае цягнік,
і сьпіць праваднік у зьнямозе.
Гвалтуючы рыфмы
і помсьцячы прозе,
ў такт колам грукоча,
спыніцца ня хоча.
Не
па
слух
мя
ны
Язык!

***

У хлопчыка Толіка дзед быў таксістам.
ў Геніка – простым савецкім чэкістам.
У Толіка ў хаце машынкаў бязь меры,
ў Гены – фуражка і герб СэСэСэРу.
Толева мара – Passat B4.
Генава – фота ў парадным мундыры...

Вырас Талян – стаў таксістам-бамбілам.
Гена ўзяў... і зрабіўся мудзілам!

Ды і ня тое, каб ён не стараўся!
Ў школе вучыўся,
спортам займаўся.
Быў нейкі час у гуртку Мельпамены,
але палезлі Генавы гены!

Геніка вабяць ня дупы і цыцкі –
сьняцца яму Мясьнікоў і Прытыцкі.
Фэлікс – ў адным скураным паліто,
Троцкі ў трыко і чорт ведае хто!

Тут бы яму да дакторскіх парад –
ён на парад і нясе траспрант.
Тут бы яму на прыём да ўрача –
ён за букецік – і да Ільліча!...

Толя за ім назірае ў вакно.
Толя – кіроўца.
А Гена – гаўно...

## Маніфест

Файна быць неталерантным
куклуксклanaўцам-сэксістам,
захапляцца добрым рэтра,
а ня чартам MTV.
Не заводзіць Інстаграмаў,
не херачыць дзікіх “лукаў”,
не хадзіць ў глямурны фітнэс
зь мікра-цюцькам на руках.
Не насіць пінжак дзядулі
і бабулі акуляраў
і з кітайцамі ў Макдональдс
не стаяць ў адной чарзе.
Не садзіцца на дыеты,
не займацца шыза-ёгай –
ў рэйтынг вартых рэчаў ўнесьці
шаблю, стрэльбу і камін.
Ў пабах піць зь сябрамі піва,
а ня сок маркоўны брыдкі,
адціскацца ад падлогі
і хадзіць на турнікі.
Ведаць родны лес за рэчкай
з самагонным апаратам
лепш, чым сьпіс харчовых кропак –
“піца, сушы і wi-fi”...
Добра быць і добра ведаць,
што ня ўсё пайшло у дупу,
што драбніцы адэквату,
хай ня ўсюль – а недзе ёсьць!

***

Ня стала паэтаў –
ні цютчаў ні фетаў,
хоць мелі нямала
і нават Купалу!
Ці музаў ня стала,
ці планка ўпала,
ці годнага званьня
паэта замала?
Ды так ці інакш –
паэтаў нястача.
Зьвяліся паэты
на многія леты.
Адклаўшы пяро, шпагі ды пісталеты,
забіўшы на оды,
каханьні, прыгоды,
згубіўшы запал і пісьменьніцкі спрыт,
натоўпам маўклівым сышлі ў нябыт.
...
Быў адзін графаман Фама,
і таго няма!

## Рэха 1863-га

Калі па нас заплачуць ліпы у прысадах
і доўгі цень на наш ўкладзецца шлях,
тут хутка расплануюць плац-парады
на нашых неўпакоеных касьцях.

Нас не пакрыюць нашымі сьцягамі,
нас адпяюць ня нашы сьвятары.
І толькі ветах узыдзе над намі
з-за вежы, што на замкавай гары.

І хай цяпер ня наша перамога,
ды нельга укладацца на спачын –
мы да суда адпросімся ў Бога
давесьці да канца змагарны чын.

Дарэмна Пётр стаіць ля брамкі ў Раі –
ніхто з нас не паверне й галавы.
Мы застаемся прывідамі ў краі
ў добраахвотных вечных вартавых.

І калі зноў падымуцца шыхтамі
паны, мяшчане, шляхта, мужыкі, –
апошні застанецца бой за намі,
як воля ў Айчыны на вякі!

***

Лясныя людзі
набіраюць ветру ў грудзі,
лясныя людзі
абдымаюць цішыню
і слухаюць – ці далей нешта будзе
і моўчкі прысядаюць ля вагню...

Лясным людзям
апошняй пушчы ў сьвеце
ніяк няўцям, што тут яны адны,
на абязьлюдзелай пустой планеце
ёсьць толькі пушча, ціш і туманы...

Лясныя людзі
не былі на страшным судзе
на іх забыўся арханёл з трубой,
яны і не настойваюць на цудзе,
яны тут застануцца, колькі будзе
адвечны лес
                    абрыдлы лёс,
                                        ды свой...

## Вербніца

Вось ізноўку вясна.
І праз тыдзень – Вялікдзень.
Час мыць шыбы ў сваіх
і бацькоўскіх хатах.
Мы па розных шляхах
да Адзінага прыйдзем,
а пакуль што, па звычцы,
ідзем брат на брата.

Вось і зноўку вярба
з каляроваю ніткай –
пасьвянцаем і кінем
у кут за абразам.
Ў вечаровым сутоньні
знаёмая плытка
паўтарае матыў
раз за разам.

Вось і зноўку яна –
невымоўная лёгкасьць,
беларуская прага
да забыцьця,
беспадстаўных надзей
незьлічоная колькасьць
й недажытых
пачаткаў жыцьця.

***

Калі мы сьпім на сваіх падушках,
чаму нам сьняцца чужыя сны?
Дачок гадуем папялушкамі –
навокал курвы. Дык скуль яны?

Мы пакідаем дзьверы замкнёнымі –
адкуль ва ўсіх суседзяў ключы?
Кленчым ля склепаў з чужымі імёнамі
і па кудзелі, і па мячы.

Самазабойствы ад самакапаньняў,
ад самакаханьняў ізноў яны.
Прызнацца ў гэтым ў цьвярозым стане
мы – ня ў стане,
а шклянку кульнуўшы... Ізноў маўчым.

"Нешта ня так" – гэта код ідэнтычнасьці.
"Хто там ідзе?" – наш нязьменны пароль.
Урэшце – нязначныя акалічнасьці
ды невымоўны фантомны боль.

***

Вазьму і памру!
А ў наступным жыцьці
(калі такое надарыцца)
нябесныя сілы я папрашу
са мною ня дужа парыцца –

я згодны займець сякі-такі хвост! –
каб ім па настроі рухаць.
А да хваста поўны лапаў набор –
каб зручна за вухам чухаць.

Таксама хацелася б пысу і нос –
каб ведаць, што дзеіцца ў сьвеце.
Ў дадатак, канешне, кудлатую поўсьць –
каб блошак было куды дзеці.

Чым стацца веганам, ці хіпсцерам, ці,
крый Божа, якім камунякам,
то лепей пабегаць па жытцы зямной
звычайным адчайным сабакам!

***

Лістапад,
лістапад,
лістапад…
Тут паэзія проста ў слове
не на іншай – на нашае мове
акурат.

І няўмольна – прасі не прасі
далей будуць завеі ды сьнежань,
яны гэтае мове таксама належаць
і нічога тут не дадасі.

Ні дадаць тут ня можна, ні ўзяць,
бо ў гэтым прастуджаным краі
толькі мовай зямля і жывая,
і нікому іх не разьяднаць.

Тут на мове дажджы і мароз,
поціск рук і п’яныя абдымкі,
і ў хаце вясковай пажоўклыя здымкі,
і усё, што у жарт і ўсур’ёз.

Гэта можна і не заўважаць,
але мова ў табе прарастае,
камяком пад кадык падступае,
каб аднойчы
нарэшце
сказаць!

***

У сабачым брэху –
бег і гурбы сьнегу!
І лясная неруш,
і прастор палёў!
І ўсяго ў ім столькі –
ты і не паверыш,
што ў простым “гаве” –
сотня нашых слоў.

У сабачым брэху
вулкай воз праехаў,
вецер бег аселіцай
і замёў сьляды.
У ікластым рыканьні
і ў шчанячым енку
сьпяць і прачынаюцца
вёскі й гарады.

У сабачым брэху
трошкі ёсьць ад сьмеху,
трошкі ад самоты,
трошкі ад нуды.
Непадробна шчырае
прывітаньне рэху
і адбітку месяца
ў місачцы вады.

***

Туманы над Вялейкай і Будславам,
над Кабыльнікам* туманы,
як у коўдру ў іх загарнуся
ад дакучлівай гаманы.
Туманы над палямі і хатамі,
і навокал, дзе толькі відаць,
гэты край, туманамі багаты,
на зіму ўкладаецца спаць.
Цішаць гукі, выбельваюць фарбы,
запавольваюць час туманы,
прыбіраючы восені скарбы
пад пухнатыя дываны.
І як толькі заплюшчыш павекі,
з туманоў уцялесьніцца ён –
найкарысьнейшы за ўсе лекі,
белы-белы, кастрычніцкі сон.

* *Кабыльнік – старая назва г.п. Нарач.*

***

Ці могуць сабакі любіць?
Сказаць мне напэўна цяжка.
Што скажа дваровы бадзяжка,
якому пад плотам жыць?

Ён скажа:
– Канешне, магу!
Я буду карысным дужа,
сагрэю ў любую сьцюжу,
ад злодзеяў зьберагу,
ніколі ад вас не зьбягу!..

Ўкладзе галаву на нагу,
прымоўкне і вочы прымружыць...
І ты зразумееш, дружа,
чаго я сказаць не змагу...

Ды лепей зусім не пытаць,
прысесьці з кудлатым побач,
на месяц зірнуць апоўнач
і сябрам сабачым стаць!

## **Дом, у якім гаспадарыць Джэк**
*(пераклад з ангельскай)*

Вось дом, у якім гаспадарыць Джэк.

А гэта ячмень, што ляжыць у каморы
Дому, ў якім гаспадарыць Джэк.

А гэта пацук, ён скрозь доўгія норы
цягае ячмень, што ляжыць у каморы
дому, ў якім гаспадарыць Джэк.

А гэта той кот, ён цяпер у гуморы,
бо зьеў пацука, што скрозь доўгія норы
цягае ячмень, што ляжыць у каморы
дому, ў якім гаспадарыць Джэк.

А гэта сабака стары і суворы
турбуе ката, што цяпер у гуморы,
бо зьеў пацука, што скрозь доўгія норы
цягаў той ячмень, што ляжыць у каморы
Дому, ў якім гаспадарыць Джэк.

А вось на падворку карова бяз рога,
якая баднула сабаку старога,
які ўсё праз тое, што дужа суворы,
турбуе ката, што цяпер у гуморы
бо зьеў пацука, што скрозь доўгія норы
цягаў той ячмень, што ляжыць у каморы
Дому, ў якім гаспадарыць Джэк.

А вось ахмістрыня характару злога,
што доіць увішна бяз рога карову,
якая баднула сабаку старога,
які ўсё праз тое, што дужа суворы,
турбуе ката, што цяпер у гуморы,
бо зьеў пацука, што скрозь доўгія норы
цягаў той ячмень, што ляжыць у каморы
Дому, ў якім гаспадарыць Джэк.

А гэта ў рызьзі абарваным нябога
ўшчыкнуў ахмістрыню характару злога,
што доіць увішна бяз рога карову,
якая баднула сабаку старога,
які ўсё праз тое, што дужа суворы,
турбуе ката, што цяпер у гуморы
бо зьеў пацука, што скрозь доўгія норы
цягаў той ячмень, што ляжыць у каморы
Дому, ў якім гаспадарыць Джэк.

А гэта сьвятар, той, што воляю Бога
у шлюбе злучыў ахмістрыню й нябогу,
які не збаяўся характару злога
той пані, што доіць карову бяз рога,
якая баднула сабаку старога,
які ўсё праз тое, што дужа суворы,
турбуе ката, што цяпер у гуморы,
бо зьеў пацука, што скрозь доўгія норы
цягаў той ячмень, што ляжыць у каморы
Дому, ў якім гаспадарыць Джэк.

А гэта той певень, што крыкам са стога
падняў сьвятара, які воляю Бога
у шлюбе злучыў ахмістрыню й нябогу,
які не збаяўся характару злога
паненкі, што доіць карову бяз рога,
якая баднула сабаку старога,
які ўсё праз тое, што дужа суворы
турбуе ката, што цяпер у гуморы,
бо зьеў пацука, што скрозь доўгія норы
цягаў той ячмень, што ляжыць у каморы
Дому, ў якім гаспадарыць Джэк.

А вось селянін, на падворку якога
жыве гэты певень, што крыкам са стога
падняў сьвятара, які воляю Бога
у шлюбе злучыў ахмістрыню й нябогу,
які не збаяўся характару злога
паненкі, што доіць бяз рога карову,
якая баднула сабаку старога,
які ўсё праз тое, што дужа суворы
турбуе ката, што ў добрым гуморы
бо зьеў пацука, што скрозь доўгія норы
цягаў той ячмень, што ляжыць у каморы
Дому, ў якім гаспадарыць Джэк.

## Сабачая адзінота

Калі гаспадар выходзіць
нават на пяць хвілін,
сабаку здаецца,
што ён застаецца
ужо назаўсёды адзін!

Ляжаць непатрэбныя цацкі,
салодкая костка ляжыць.
Сабаку тужліва,
і жыць немажліва,
і час так марудна бяжыць!

А побач за сьценкай свабода –
там жытка віруе, кіпіць!
І добрыя людзі,
і такса, і пудзель...
Вось жыць бы, здаецца, і жыць!

А кепскія думкі пануюць,
псуецца сабачы настрой –
сядзіць, як пабіты,
усімі забыты.
І сьмерці чакае з касой!

Ды раптам пачуюцца крокі
Павернецца вочка замка –
прылашчыць, абдыме,
тугу ўмомант здыме
найлепшага сябра рука!

## Стварэньне чалавека

Сказаў ганчар – мы зробленыя з гліны!
Каваль упэўнена абараняў чыгун,
за хлебны мякіш быў сівы араты,
на мясе з косткамі настойваў хірург...
І толькі паджылы асенізатар
у спрэчках ня ўдзельнічаў зусім
ды адстаронена глядзеў сабе на неба...
І невядома,
                ці напраўду быў адэптам ён тэорыі
стварэньня,
ці верыў у візіты марсіян,
ці нешта іншае трымаў на думцы,
ды толькі ж ўсё маўчаў і ціха пасьміхаўся...

## **Мурашы і слімакі**

*(пераклад з украінскай А. Мікалаенка)*

Мы зь месца на месца штурхаем ідэі ў дзіцячае шчырасьці.
Мы з гораду ў горад вандруем у пошуках шчасьця.
Хтось не пасьпявае за намі, другі – проста вырасьці,
хаця яму заўтра і выпадзе карта казырнае масьці.

Мы рушым шыхтом на шляху, драбнату абганяючы,
вялікім натоўпам, па цёплым шурпатым асфальце.
Паўзем сьлімакамі, бяжым мурашамі, зьнікаючы.
Шчэ толькі імгненьне, шчэ трошкі – і нас не шукайце.

Шчэ трохі – мы створым адно велічэзнае кола,
нябачны ланцуг, дзе усіх між сабой парамірым.
І покуль расьце і мацнее наш ўнутраны голас,
мы робімся едным, адзіным, шчасьлівым.

***

У сабакаў жыцьцё не кароткае,
яно проста бяжыць шпарчэй!
Без патрэбы ў абутку і портках
па сьцяжынах, лагчынах, пагорках
лапы рухаюцца хутчэй!

Не мінаючы гнёзды і норкі
не адводзячы прагных вачэй…
Яны рвуцца з кароткае шворкі
у той сьвет, дзе сьвятлейшыя зоркі,
дзе іх сонца гарыць ярчэй!

У сабакі жыцьцё не кароткае,
не садзіце яго на ланцуг.
У сабакаў звярыныя продкі,
у сабакаўваўчыныя ноткі
і свабодны няўрымсьлівы дух!

## Жнівень

І яблыкі падаюць у цішыню,
і зоры зьлятаюць на ганак.
Ці я гэта бачу,
ці я гэта сьню
пад ранак?

Туман на сьвітаньні, і кроплі дажджу,
і жоўтыя пасмы на шатах,
і клёкат бусьліны імкне ў вышыню
над хатай.

Расплюшчыўшы вочы, я ціха ляжу.
Гадзіньнік маўчыць. Зламаўся?
Ня хочацца ў дзень пераходзіць мяжу,
каб жнівень даўжэй затрымаўся.

***

Восень – бурштын і мёд,
жоўтых бярозаў сьвечы.
З птушкамі на адлёт
з шафы зьбіраю рэчы.

У лужынах ледзьве-лёд,
пах тытуню і хвоі.
Мне б на тры дні ў намёт
і ў падгалоўе – мроі.

Мне б з казанка вады,
так, каб ламала зубы.
Мне б адшукаць сьляды
той, што назвала “любы”.

***

Нёс крумкач у дзюбе жолуд,
жолуд выпаў – вырас волат!
Каля волата браты
зь імі чын бяры і ты!

На тым дубе па суку
кожнаму бальшавіку:
актывісту,
камсамольцу,
пралетару-дабравольцу,
інфарматару ЧК,
камандзіру РККА!

Вакол дуба шуміць гай –
не сядзі – дапамагай!
Няхай людзі добрай волі
садзяць тых дубоў паболей!

Каб над нашаю дубровай
узышоў сьвітанак новы!

*Песьня з цудам ацалелага дзённіка, што належаў, верагодна, інсургенту легендарнага «Зялёнага дубу». Знойдзены на гарышчы вясковае хаты н-скага раёну, датуецца 1920-мі гадамі.*

***

Я крычу ля вашае магілы,
камуністы і бальшавікі:
– Хай ня будзе гэты сьвет вам мілы
ў гэты век і іншыя вякі!

Хай ў зямлі спакою вам ня будзе –
кат памёрлы – усё роўна кат.
Хай забойцам вечна сьняцца людзі,
людзі Калымы і Курапат!

Вас няма у Празе й Будапэшце,
ні на Вісьле, ні на Сырдар'і.
Хутка й мы пазбавімся дарэшты
вашых брудных зоркаў у крыві.

Скінем долу помнікі тырану,
пад бульдозер пойдзе п'едэстал.
І чакае вас, беспакараных,
Божы суд і людскі трыбунал!

## На лецішчы

Сонечны марозны ранак:
задубеў каменны ганак,
зьмерз на ветраніку цмок,
стынуць клямка і замок.
У ставочках лёг лядок,
ў гольлі дрэваў халадок.
Пасівелі дахі,
адляцелі птахі.

Ўклаўся шэрань на мурог –
лістапад стаў на парог.

***

Дагарае ў каміне агонь
і маўклівы кастрычніцкі ранак
у халодную хукне далонь
ад лісьця адмятаючы ганак.

І вісяць абрусы туманоў,
расьцягнуўшыся на даляглядзе,
дзе лістота кружляе ізноў
і ніяк не ўпадзе...

Па ільдзістую шклянку вады
цягнуць гольле бярозы.
І ад сеньня два крокі хады
да зімы і мароза.

***

На захадзе ад Радашковічаў –
мая дарога да дому.
На захадзе ад Радашковічаў –
сталічную лекую стому.

На захадзе ад Радашковічаў –
мае крыжы і магілы.
На захадзе ад Радашковічаў –
за сьпінай мацнеюць крылы.

На захадзе ад Радашковічаў –
Будслаўская і Вастрабрамская.
На захадзе ад Радашковічаў –
марнее улада хамская.

На захадзе ад Радашковічаў –
ізноў апынуся няўхільна.
На захадзе ад Радашковічаў –
мой крок набліжае Вільню.

На захадзе ад Радашковічаў –
мне больш зразумелыя людзі.
На захадзе ад Радашковічаў –
яшчэ можа што і будзе.

***

*Бацьку*

Не прасіце, хлопцы, вершаў у паэта
хай не напісанае застаецца зь ім.
Вы ж жылі бязь вершаў
столькі зімаў-летаў
мо і не патрэбны вам гэты верш зусім?

Ну, а мо ня верша папрасіць хацелі?
Мо хацелі проста разам памаўчаць?
Можа б чарку ўзялі,
ціха пасядзелі,
і пра верш пытаньне давялося б зьняць?

Бо усё, чым сэрца і душа трымцелі,
ёсьць ў нябесных зорках,
ў полымі агню,
у смачное ежы, мяккае пасьцелі
ды у асалодзе – слухаць цішыню.

А калі ўсё ж твору – лёс на сьвет зьявіцца
(музы час той ведаюць – іншым не відно),
тут у слухачы ўжо можна й не прасіцца –
сам паэт заявіцца зь вершам заадно!

# Зьмест

***Дарогам сьвету сьняцца сны 7

ВУЛІЦЫ СТАЛІЦЫ

Сьнежнае 11
Байка, пачутая ля дому “пад шпілем” 12
У свой час 14
***А проста сьнег ідзе вакол 15
***Ў апошняй зямной сваёй хаце 16
***Рыба пачынае з галавы 18
Зімовы сон 19
На сыходзе чарговага году 20
***Ёсьць навукаў у сьвеце нямала 21
Украіна 2014 22
Перадсьвяточнае 23
Разумець Расею 24
НГ-рэквіем 25
Гарадскі эцюд 26
***Я вулкамі прайдуся па лісьці 27
Фэйсбукавае 29
Чыгуначны рок-н-рол 30
***У хлопчыка Толіка дзед быў таксістам 31
Маніфест 32
***Ня стала паэтаў 33

## СЬЦЯЖЫНЫ ПРАВІНЦЫІ

Рэха 1863-га 37
***Лясныя людзі 38
Вербніца 39
***Калі мы сьпім на сваіх падушках 40
***Вазьму і памру 41
***Лістапад, лістапад, лістапад 42
***У сабачым брэху 43
***Туманы над Вялейкай і Будславам 44
***Ці могуць сабакі любіць? 45
Дом, у якім гаспадарыць Джэк 46
Сабачая адзінота 49
Стварэньне чалавека 50
Мурашы і слімакі
(*пераклад з украінскай А. Мікалаенка*) 51
***У сабакаў жыцьцё не кароткае 52
Жнівень 53
***Восень – бурштын і мёд 54
***Нес крумкач у дзюбе жолуд 55
***Я крычу ля вашае магілы 56
На лецішчы 57
***Дагарае ў каміне агонь 58
***На захадзе ад Радашковічаў 59
***Не прасіце, хлопцаў, вершаў у паэта 60

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Сцебурака** Усевалад

**Сны дарог**

*Вершы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *??*
Камп’ютарная вёрстка *??*
Карэктар *??*

Падпісана ў друк 07.12.2017. Фармат 70×90 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ул.-выд. арк. ??? (колькасць радкоў дзяліць на 700).
Ум. друк. арк. 2,33.
Наклад ??500 асобнікаў. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.